Šauksmas.

Baltgudžių visuomenės priešrinkiminis laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая прэдвыбарная часопісь.



КОЎНА 1926.

# Зьмест.

## Šauksmas-**Покліч.**

# Беларусы, рухтуйцеся да выбараў!

Хоць нас беларусоў у сучаснай Літве не надта многа, але ўсё-ж мы маем свае патрэбы жыцьця. Па галоўнейшым з іх на старонках гэтай часопісі Вы знайдзяце адпаведныя артыкулы, а ласьне: па пытаньням 1) літоўска-беларускіх адносін, 2) школьнай справе, 3) зямельнай справе, 4) пашпартнай справе і інш.

Ліхая справа — пачуцьцё безбароннасьці, не раз адчуваў яе беларускі народ.

Нехай гэтая часопісь будзе Вам памяткай і доказам таго, што ёсьць дзесьці людзі, якіх цікавіць Ваша доля, якія дбаюць аб Вас і жадаюць, у меры магчымасьці, зрабіць усё для паляпшэньня Вашага дабрабыту.

## Памятуйце, што трэба галасаваць за сваіх!

## Нумеры нашых выбарных сьпіскау па вокругамъ:

| | |
|---|---|
| Ковенскаму, Троцкаму, Вылкавыскаму і Шацкаму | **Nr. 18** |
| Кейданскаму, Расіенскаму і Таўрагенскаму | **Nr. 19** |
| Цельшынскаму, Мажэйкаўскаму і Крэцінскаму | **Nr. 18** |
| Панявежскаму, Шавельскаму і Бір.-Пасвальскаму | **Nr. 16** |
| Уцянскаму, Ракіскаму, Эжэрэнскаму і Вілкамірскаму | **Nr. 7** |

Наш сьпісак па ўсім вакругам увайшоў у блёк ляўдзінінкаў, апроч Понявежскаго вокругу, гдзе сьпісак увайшоў у блёк меншасьцяў.

Гэтая невялічкая часопісь—вынік высілкаў таго гуртка беларусоў, па думцы якіх паўстала пытаньне аб утварэньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве.

Беларуская часопісь не ёсьць навіна для Літвы, гдзе беларуская справа мае сваю гісторыю. Наша жаданьне ўпісаць яшчэ новы аркуш у гэтую кнігу.

Гурток імкнецца (канкрэтнай штодзеннай працай, ня выходзячы за арбіту літоўскіх інтэрэсаў і не маючы на мэце вузка партыйных палітычных заданьняў) і жадае выявіць інтэрасы беларускага жыхарства ў Літве, і зьвязаць яго ў акрэсленую арганізацыю, пашырыць беларускую справу і павялічыць баларускі ўплыў у Літве.

Будучы поўнасьцьцю лояльны як да Літоўскае дзяржаўнасьці, так і да ўстаноў, выяўляючых літоўскі суверэнітэт, мы жадаем ажыцьцявіць, рэалізаваць нададзены векамі братарскага сужыцьця з літвінамі беларускі імпульс для асягненьня агульных літоўска-беларускіх мэтаў.

Ў агульным масштабе беларуская справа, амаль, да часоў беларускага адраджэньня мела акадэмічны абстрактны характар і датычылася нястолькі саміх беларусоў, сколькі рожнага віду праблем, завязаных з абшарамі засялёнымі беларусамі. І ня дзіва. Беларусь шмат бачыла ў сваім гістарычным жыцьці. Маючы і выпрацаваўшы ў сувязі з Літвою свой быт і свае самастойныя погляды на грамацка-дзяржаўнае будаўніцтва, Беларусь—гэта вялікія (як географічна, так і ідэолёгічна) вароты паміж захадам і ўсходам—зьявілася арэнаю, гдзе была і адбываецца барацьба культур, барацьба рэлігій, барацьба ідэй, барацьба народаў і дзяржаў. Кожнае з гэтых заявішч жадала замацавацца, рабіць сваю эпоху, пакінуць свае нашчаткі на Беларусі.—Часамі траплялася так, што змагаючаяся за сваё уцелаішчаньне праблема пакрывала сабою, зацірала беларускую істоту, беларускія патрэбы жыцьця.—Беларусь

рабілась службовым элементам ў асягненьні тых або іншых мэтаў пануючага фактара, пануючай праблемы.

Справа беларускага адраджэньня, воля беларускага народу быць суверэнам—гаспадаром на сваёй бацькаўшчыне,— тая канкрэтная праца, якая за апошнія гады была прароблена беларусамі на ўсіх этнаграфічных беларускіх абшарах, асягнула, заваевала сабе права жыць. Усе вышэйпамянёныя праблемы сталі праблемамі, пытаньнямі ў Беларусі, а не над Беларусьсю.

Праявы беларускага адраджэньня былі фіксаваны і ў Літве. Ў свой час яны мелі тут больш яскравыя адзнакі, чым гдзе-колечы ў другім месцы па-замежамі этнаграфічнае Беларусі. Беларускае адраджэньне ўжывалася тут як функцыя, а не як аргумэнт, гэта значыць—у залежнасьці ад палітычных вынікаў, зьвязаных з беларускім пытаньнем, а не па істоце. Літоўскі Урад лічачыся з фактам, высунуў беларускую справу на-поверх палітычнага міжнарадовага жыцьця. Гэты крок Літоўскага Ураду меў вядомыя ўсім пазітыўныя вынікі дзеля агульнай як літоўскай, так і беларускай карысьці. Гэтыя гады літоўска-беларускага супрацоўніцтва стварылі сваю эпоху ў беларускай справе. Само жыцьцё завершыла гэту эпоху і паставіла над ёй пункт.

Падыходзячы да апошняга момэнту з пачуцьцём поўнай аб'ектыўнасьці, мы, мінаючы асабістасьці, зазначаем, што ў завершэньні памянёнага супрацоўніцтва, не бачым правінасьці ні з боку беларускае, ні з боку літоўскае стараны. Варункі жыцьця, ў якіх апынулася беларуская этнаграфічная маса, беларускае жыхарства стварыла свой новый жыцьцёвы цэнтр, наўкола якога пачала гуртавацца, расквітаць справа беларускага адраджэньня.

Стаўшы на беларускі шлях і уважліва крок-за крокам, дзень-па-дню замацовывавшы нацыянальныя здабыткі, сучасны Менск аб'еднаў і прыцягнуў да працы ўсё тое, што з нацыянальна-культурнага боку здолела прад'явіць на падпарадкаваных або зьвязаных з ім абшарах справа беларускага адраджаэньня.

Прыняўшы на сябе адпаведнасьць за нацыянальна-дзержаўнае будаўніцтва на зруйнаванай вайною Бацькаўшчыне, працуючы сярод у значнай меры денацыялізаванага і мала сьвядомага жыхарства,—Ўрад Радавай Беларусі мае права сказаць, што ён ганарова выканаў прынятыя на сябе заданьня: зьвярнуў беларускаму селянству пачучьцё яго нацыянальнай істоты і паставіў на пэўны шлях поступу (прагрэсу) як культурныя, так і гаспадарчыя яго асягненьня. Зьмешчаная ў канцы гэтага нумеру табліца аб сучасным гаспадарчым становішчы Радавай Беларусі зьяўляецца аб'ектыўнай ілюстрацыяй таго, што раны (нанесяныя краю вайною) ўжо зажылі, а вытворчасьць і прадукцыя дасягнула становішча давайсковага часу, а ў некатарых галінох перавысіла яго. Створаны наўкола Менску глыбока прадуманы і шырока разгорнуты камплекс нацыянальна-культурных установ, ажыцяўлены акрэсьлянай палітычнай ідыолёгіі, ён зрабіўся магнітам, да якога цягнуцца масы раскіданага па іншым дзержавам беларускага жыхарства, бачучага там выяўленьне беларускай волі да жыцьця надзею, абаронцу і гарантыю свайго нацыянальна-культурнага адраджэньня.

Ясна, што маючы гэта на відоку, Ўрад Літоўскай Рэспублікі страціў магчымасьць прадаўжаць свае афіцыяльныя стасункі з дэкларатыўным прадстаўніцтвам беларускага народу, пасколькі апошняе не патрапіла ажыцьцёвіць сябе—скарыстаць меўшыяся магчымасьці, каб навязаць стасункі і атрымаць паўнамоцтва ад заўпраднага рэальнага беларускага дзержаўнага і культурнага цэнтру.

Рэальныя патрэбы жыцьця, ў тым ліку—эканамічных стасункаў з Радавай Беларусью, прымусілі зрабіць крок для новага вырашэньня дзержаўнаго масштабу, літоўска-беларускіх адносін і ў першую чаргу адсунуць камплекс элементаў, які першкаджаў уцелаішчэньню гэтых адносін.

У той час як з палітычна-міжнарадовага боку беларуская справа ў Літве была пастаўлена даволі шырока, то справа беларускай меншасьці ў Літве патрэбавала і патрабуе

акрэсляных карэктыў. Можна сказаць, што яна трацілася была не прыкметна за шырокімі палітычнымі перспэктывамі,, якія давала беларуская справа ў міжнарадовым масштабе. Справай беларускай меншасьці ў Літве ніхто як след не займаўся, хоць варункі дастаўляемыя Літоўскім Урадам былі даволі добрыя: фармэльна на справу беларускай меншасьці адпускаліся значныя крэдиты. Беларусы мелі сваё Міністэрства, так сказаць, завершэньне меншынственных правоў. Нават былі беларускія вайсковыя часткі. Трэба адзначыць, што амерыканскі мэтад будоўлі беларускай меншасьці, рабіць зьверху, не даў пазытыўных вінікаў. Беларуская меншынственная пакрышка (Міністэрства Беларускіх Спраў) не патрапіла зьвязацца з сваім фундамэнтам-беларускім жыхарствам сучаснай Літвы. Гэта пакрышка нібы прикрывала фундамэнт, але самога будынку (паверхаў) - выбраных месцовым беларускім жыхарствам нацыянальна-культурных установ і сеткі беларускіх школ—не было. Меншынственная ўстанова (Міністэрства Беларускіх Спраў) увязла ў агульную палітыку і аддала ёй сваю працу. „Дробныя-ж справы“—патрэбны жыцьця месцовага беларускага жыхарства адайшлі на другарадны плян. І ці трэба дзівіцца таму, што калі палітычныя варункі дзеля беларускай справы ў Літве часова зьмяніліся—пагоршалі, дык была фактычна зьліквідавана і чыннасьць трымаўшагася на палітыце гэтага Міністэрства. Новы вецяр узняў пакрышку і ад Беларускага Міністэрства, ад справы беларускай меншасьці ў Літве засталося—пустое мейсца.

---

Гэтыя „дробныя справы“—патрэбы жыцьця месцовага беларускага жыхарства і пажадала высьвятліць наша часопісь „Покліч“. Мы думаем, што трэба пачаць справу беларускай меншасьці ў Літве ад фундамэнту. На падставе даных Літоўскага статыстычнага Дэпартамэнту белурусоў у сучаснай Літве налічваецца каля 5000 жыхароў. Будзем лічыць, што гэта так!—Падыйсьці да гэтага жыхарства, арганізаваць яго, выявіць яго жыцьцёвыя нацыянальна-культурныя і іншыя патрэбы, дапамагчы яму ў адпаведных дзержаўных літоўскіх установах здаволіць свае законныя дамаганьня,—вось тая сьцежка, па якой павінна праводзіцца беларуская справа ў Літве. Быць водгукам беларускага жыцьця ў Літве, падыйсьці да

істоты справы беларускага адраджэньня і скіраваць яго праявы па правідловаму шляху, паказаць яго твар, а не ізнанку —вось заданьне і мэта гэтай часопісі.

Беларусы Літвы не адрэзаны ломаць, а жывы водпрыск беларускай справы. Беларускія культурныя здабыткі і асягненьні павінны быць і іх скарбам. Больш таго, ў гістарычна братэрскай Літве беларус меў і мае падставу спадзявацца на спрыяючыя абставіны дзеля справы свайго адраджэньня.

Пашырэньне, замацаваньне, росквіт беларускай справы тут зьяўляецца ганаравой мэтай сам па сабе; ў стасунку-ж да Літвы акупаванай набірае надзвычайную вагу, робіцца заданьнем літоўскай дзяржаўнай палітыкі: бо мусіць выявіць сабою тыя перспектывы, якія чакаюць беларусоў Віленшчыны ад супрацоўніцтва і сувязі з Літвою. Нарыхтаваўшы, наладзіўшы на запраўды здаровых падставах справу беларускай меншасьці ў сучаснай Літве, мы спадзяёмся на сьвядомы, арганізаваны падход да справы беларускага жыхарства. Адчуўшы пэўную ініцыатыву, беларускае жыхарства Незалежнай Літвы будзе годна і здольна, разам з літоўцамі наводзіць жывую сувязь паміж сучаснай і акупаванай Літвой.

Справа беларуска-літоўскага супрацоўніцтва нарэшце вырвецца з кабінэтаў на простор і зробіцца масавым зьявішчам. У арганізм—пачуцьцё акупаванага жыхарства прышчэпляцца суперэчныя дамаганьням Польшчы здольнасьці, што не дасьць магчымасьці акупантам зьдзейсьніць свае мрыі—ўцягнуць падпарадкаванае насільствам жыхарства ў арбіту польскіх інтэрэсаў, замацаваць сучаснае становішча, палагодзіць з ім акупаванае жыхарства. Наадтварот, усьвядомленае ў сваіх правох і мэтах жыхарства выпрацуе, выкуе волю да змаганьня з акупантамі. Вынікам усяго гэтага створыцца належная, адпаведная патрэбам справы, сувязь паміж сучаснай і акупаванай Літвой, створыцца тая жывая сетка, якая скруціць, спаралізуе польскі імперыялізм.

Заданьня справы безарускага адраджэньня і інтэрэсы сучаснай імперыялістычнай Польшчы арганічна, па істоце суперэчаць адно другому: бо ніколі не здоляюць палагодзіцца паміж сабою беларускі селянін і польскі пан.

Гэткая суперэчнасьць інтэрэсаў істнуе і паміж Літвою а Польшчай. Паскольку як беларускі, так і літоўскі селянін зьяўляюцца галоўнымі чыннікамі вялікае ідэі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня гэтых народ ў (бо толькі сярод селян была захована нацыянальная мова, толькі селянства

арганічна зьвязана з нацыянальным бытам), пастольку нацыянальная палітыка гэтых народаў павінна імкнуцца да ўзмацаваньня сваіх par excelans нацыянальных клясаў, імкнуцца к палепшэньню іх дабрабыту-ж — і таму нацыянальная палітыка як літоўцаў, так і беларусоў ня можа пагадзіцца з імпэрыялізмам Польшчы, асабліва сучаснай панскай Польшчы. Або пан-паляк, або селянін-літвін і беларус будуць прэдстаўніцтваваць ад імя Віленшчыны.

Вось гэтая супольнасьць інтэрэсаў па істоце нацыянальнага руху ў сцраве як беларускага, так і літоўскага адраджэньня зьяўляецца галоўнай падставяй імкненьня беларускіх нацыянальна-палітычных дзеячоў асягнуць у сучасных абставінах актыўнага пляноваго супрацоўнітва з літвінамі. Мы жадаем, пры падтрымцы спачуваючых нашым агульным мэтам сіл, разам змагаецца супроць польскай акупацыі. Мы ня можам, седзячы ў кабінэтах, моўчкам аб'ектыўна, спакойна ўглядацца на тое, як Польшча сістэматычна руйнуе нашу нацыянальную справу, як плянова масамі яна нішчыць нашае жыхарства, як гнаіцца яно па польскім турмам за малейшую праяву нацыянальнага пачуцьця.

Справа Вільні, Вільні акупаванай, ёсьць найлепшы цэмент і падстава для істотнага сьціслага літоўска-беларускага паразуменьня і вольнага сужыцьця.

Дзеля ўцелаішчэньня і завяршэньня гэтае справы „Покліч" заклікае беларусоў, грамадзян Літвы надрыхтаваецца.— Ўсьвядамлёныя і яны павінны стаць чыннікамі ў агульнай справе. Адчувшы сваю нацыянальную істоту і яны мусяць належную частку ўнясьці ў свой культурный скарб.

Беларусы пераканаліся ў тым, што маюць права і здольнасьць на ўцелішчаньне свайго прагрэсу, аб чым яскрава сьведчаць здабытыя Менскам асягненьня: беларускі народ, як зачарованы багатыр, ўспрыснуты ажыцяўляючай вадой, пачынае выпростываць свае суставы.— Апошнія як культурныя здабыткі, так і ўздойм вагі беларускай справы ў міжнарадовым масштабе, высоўваюць для яе новыя перспэктывы, пашыраюць яе кругазор.

Народ, атрымаўшы пачуцьцё сваей нацыянальнай годнасьці, спакойна глядзіць у будучыну і сьмела пойдзе насустрэч патрэбам беларускага жыцьця.

# Да юбілею Беларускае школы.

Ў цэлым шэрагу беларускіх нацыянальна-культурных юбілеяў, прыпаўшых на 1925 год, адно з галоўнейшых месц належыць, безумоўна, дзесяцігодзьдзю афіцыяльнага істнаваньня нацыянальна-беларускае школы.

Школа для беларускага жыхарства ў роднай яго мове зьявілася толькі тады, калі жыхарства пазбавілася „апекі“ расейскага самадзержаўя, забараніўшага беларускія школы. Нават друкаваньне беларускіх кніжак да 1905 году было забаронена. Па ўказам рассійскіх цароў быў зьліквідаваны цэлы шэраг вышэйшых школ, істнаваўшых на нашай **Бацькаўшчыне**: ў Полацку, ў Горках, ў Слуцку, ў Вільні і ў Горадні, інвэнтар якіх быў перададзены ў расейскія навуковыя установы.

Дзесяць гадоў назад, 13-га лістападу 1915 году, ў Вільні адчынілася першая легальная беларуская школа.

Ў працягу 1915—1918 гадоў, на тэрыторыі Заходняе Беларусі, ужо працавала да 300 пачаткавых беларускіх школ, настаўніцкая сэмінарыя ў Сьвіслачы. Потым беларускія гімназіі ў Вільні, ў Радошкавічах.

У Беларусь Усходнюю школа прыйшла пазьней. Толькі праз год, у восені 1916 году, адчынілася адзіная на ўсю Ўсходнюю Беларусь беларуская пачаткавая школа пры беларускім прытулку ў Ратамцы. Яшчэ праз год, у восені 1917 году, адчынілася 4 беларускіх пачаткавых школы ў Менску. Ўрэшце, праз тры гады, ў восені 1918 году, адчыняюцца ў Менску першыя беларускія настаўніцкія курсы і пачынаецца арганізацыя школ па Менскіх ваколіцах. У 1919 годзе беларускія школы ў Менску і ў правінцыі лічуцца ўжо сотнямі.

Ў Латвіі першыя беларускія нацыянальныя школы зьявіліся ў 1921 годзе. Ўлетку гэтага году, ў Дзьвінску, адчыніліся першыя каротка-тэрміновыя беларускія вучыцельскія

курсы беларусазнаўства. Ўвосені таго-ж году адчынілася 16 беларускіх пачаткавых школ ў Дзьвінскім павеце, а потым, дзеля кіраваньня гэтымі школамі, быў утвораны Беларускі Аддзел пры Міністэрстві Асьветы. Ў 1922—23 навучальным годзе беларуская меншасьць ў Латвіі мела ўжо 50 пачатковых школ, 2 гімназіі і сталыя настаўніцкія курсы.

Ў Літве першая беларуская школа адчынілася ў 1922 годзе ў Манкавішках (каля мястэчка Кроняў), потым ў Нарвэйшах, Уцянскага павету, і ў месьце Эжэрэнах, а ў першай палове 1923 году прайшлі ў Коўні каротка-тэрміновыя курсы беларусазнаўства. Апрыч гэтага, было ў тым часе пададзена з рожных месц Літвы каля 50 прыгавараў аб пільна патрэбным адчыненьні тамака беларускіх пачаткавых школ.

Найлепшы посьпех беларуская школа зрабіла ў Радавай Беларусі.

У сучасны момэнт там маецца:

1) Пачаткавых школ 4042, з якіх 282 школы для меншасьцяў (яўрэйскага, расейскага, польскага, латышскага, нямецкага, эстонскага).

2) Школ 7-мі летак 237 (з якіх 76 для меншасьцяў яўрэйскага, польскага, расейскага і латышскага).

| | |
|---|---|
| Лік вучняў ў гэтых школах | 351737, |
| лік вучыцялёў | 8630, |

$^0/_0$ ахапліваемых школай дзяцей школьнага ўзросту ў параўнаньні з давайсковым часам павялічыўся, амаль, у два разы.

3) Ніжэйшых прафесыянальных школ:

| | |
|---|---|
| тэхнічных | 24 |
| сельска-гаспадарчых | 5 |
| фабрычна-завацкіх | 3 |
| вучэбных майстэрняў | 7 |
| сельска-гаспадарчых (5-ці месячных) курсаў для дарослых | 10 |

4) Тэхнікумаў:

| | |
|---|---|
| педагагічных | 10 (з іх 3 для меншасьцяў) |
| сельска-гаспадарчых | 6 |
| медыцынскіх | 2 |
| індустрыяльных | 2 |
| кааперацыйных | 1 |

музыкальных 1
мастацкіх (художественных) 1

5) Вышэйшых школ:
Беларускі Дзяржаўны Унівэрсітэт—5 факультэтаў,
Камуністычны Універсытэт (абодва ў Менску)
Сельска-гаспадарчая акадэмія ў Горках
Ветэрынарны Інстытут у Вітэбску.
Усяго ў вышэйшых школах адукуецца
студэнтаў 4251
лік акадэмічнага персаналу 427.

Выкладаньне ў беларускай мове праводзіцца ва ўсіх беларускіх школах першае ступені. У школах меншасьцяў беларуская мова, як абавязковы прэдмет пачынае выкладаецца з другога году навучаньня. У школах другое ступені (7-мі летак) усе выкладаньне пабеларуску праводзіцца на тых абшарах, гдзе раней стварылася Радавая Беларусь; на абшарах-жа далучаных да Радавай Беларусі ў 1924 г. выкладаньне зьмешанае (ў расейскай і беларускай мовах).

У беларускіх педагагічных тэхнікумах, амаль, ўсё выкладаньне праводзіцца ў беларускай мове.

У вышэйшых школах лік выкладаных у беларускай мове вед з кожным годам павелічваецца, так прыкладам: на педагагічным факультэце Бел. Д. Універсытэту ў 1924—25 гаду выкладалася 13 ведаў

у 1925—26 г. — 57 —

У мінулым годзе адбыўся цэлы шэраг тэрміновых курсаў для беларусазнаўства, якія праслухалі больш 8800 грамадзян.

Існуе цэлы шэраг беларускіх нацыянальна-культурных устаноў, пачынаючы ад Інстытута Беларускай Культуры з рожнымі пададзеламі (ў тым ліку і з літоўскім) і трох тэатральных беларускіх труп, музэяў і канчаючы бібліатэкамі і хатамі селяніна.

З друку за апошні год у беларускай мове вышла
выданьняў 175
ў іх аркушаў друку 1098
экземпляраў выданьняў 2,079,500

Адным словам, Радавая Беларусь мае чым спатыкаць сьвята нацыяналае беларускае школы на сваіх абшарах.

Ў Заходняй Беларусі, цяжка стогнучай пад уладай панскае Польшчы—малюнак зусім іншы. Крок за крокам, з дзікаю ненавісьцю, польскія паны ціснуць беларускую школу. Пад рожнымі прычынамі і повадамі зачыняюцца беларускія старыя школы і адмаўляецца ў адчыненьні школ новых. Беларускіх вучыцялёў высылаюць вучыць польскіх дзяцей пад Варшавай і Кракавам, ці садзюць ў лягеры ды ў турму толькі за тое, што яны, не дачакаўшыся афіцыяльнага дазволу на прасімыя жыхарствам беларускія школы, вучуць дзетак ў школах не афіцыяльных. Аднак нішто ня можа зламаць гарачага жаданьня беларускага жыхарства пад польскай акупацыяй мець сваю родную беларускую школу. Кожын год ўсе больш і больш падаецца жыхарствам просьбаў аб адчыненьні беларускіх школ. Ўсё рашучай беларускае селянства байкатуе польскую школу і адмаўляецца пасылаць да яе сваіх дзетак. Ўсе больш адчыняецца пад Польшчай беларускіх неафіцыяльных школак і напэўна хутка прабье тая гадзіна, калі палякі змушаны будуць здацца і даць, ў рэшце, беларускаму жыхарству беларускую школу.

Ў Латвіі, пад націскам чорнасоценнага расейскага адстаўнона чынавецтва, (да гонару расейскіх дэмакратычных колаў трэба аднесьці тое, што яны не падзеляць беларусаедзкіх настрояў сваіх чарнасоценных дзеячоў і часам, нават, схільны бываюць падтрымаць беларусоў), польскіх памешчыкаў, ды некатарых латыскіх шавіністаў, таксама была зроблена спроба ўшчаміць беларускую школу. Год таму назад, быў часова ліквідаваны Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы, выдалены з пасады некольки беларускіх вучыцялёўадраджэнцаў, частка якіх нават выслана з Латвіі, ўрэшце зачынена адна з беларускіх гімназіяў у Люцыне. Аднача гэтыя крокі, як і кожны прымус, толькі выклікалі большую нацыянальную і сацыяльную сьвядомасьць ў беларускіх працоўных селянска-рабочых колах. Беларуская нацыянальная меншасьць ўзялася, ў рэшце, за самаарганізацыю. Ў сярэдзіне 1925 году, зьявілася некольки беларускіх таварыстваў, адчыніліся і новыя беларускія пачаткавыя школы, ў тым ліку, першая прыватная пачаткавая беларуская школа ў Рызе.

Гэтым летам спаўняецца пяцігодзьдзе першых беларускіх вучыцельскіх курсаў у Дзьвінску, а ўвосені беларуская

меншасьць зможа адсьвяткаваць пяцігадовы юбілей істнаваньня беларускае школы ў Латвіі.

Гады 1923 1925 былі даволі цяжкімі дзеля беларускае справы ў нас на Літве. За гэты час было зліквідавана некалькі беларускіх установў. Не мінула агульнае долі і беларуская школа. Апошняя беларуская Манкавішская школа была зачынена ў 1925 годзе. Мы спадзяемся, што гэты вынік часовага непаразуменьня хутка міне. Спадзяемся, што новы Сойм зьверне сваю увагу на патрэбы месцовага беларускага жыхарства і беларуская школа ў Літве замацуе свае правы на істнаваньне.

Справа беларускае нацыянальнае школы стаіць ўжо паўсюды на моцным грунце. Могуць быць тыя, ці іншыя замінкі, выкліканыя варожаю працаю нашых нацыянальных ворагаў, але ўжо ня ў іх сілах спыніць шпаркі ўзрост беларускае нацыянальнае сьвядомасьці і будаваньне беларускае нацыянальнае школы. Галоўны довад нашых ворагаў супроць беларускае школы будаваўся на тым што беларуская мова нібыта „хамская“ мова, што яна „нікому не патрэбна“ і што з ёю „німа куды йсьці“. Гэтыя довады цяперака адпалі. На ўсходзе ад нас утварылася беларуская дзяржава, ў якой ня толькі беларусы, але і іншыя нацыянальнасьці навучаюцца ў сваіх школах беларускай мове. Ўсе ўрадовыя установы Радавае Беларусі ўжо ўжываюць беларускую мову, як мову дзяржаўную. І мы прэдбачаемо час, калі і ў Літве ня толькі беларусы, але і іншыя нацыянальнасьці пажадаюць навучаць ў сваіх школах беларускай мове, бо гэта мова зьяўляецца моваю аднаго з бліжэйшых суседзяў літоўскага народу.

---

**Не мала людзей за грамадзкую справу страцілі сваё жыцьцё. Наш абавязак страціць некальні хвылін на галасаваньне!**

# Зямельнае пытаньне.

Зямля для беларуса як усюды, так і ў Літве—гэта ўсё, бо беларусы ў Літве—пераважна селяне. Адабраць ад селяніна зямлю—гэта ўсё адабраць, усё роўна што у птушкі адабраць скрыдлы, што ў рыбы адабраць воду. Па пазьнейшай статыстыцы беларусаў у Літве вельмі мала. Гэта сталася таму, што пашырэньнем нацыянальнай свядомасьці, амаль, ніхто сярод іх не займаўся. Значны лік беларускага селянства паўднёвай Літвы лічыць сябе палякамі, а ўсходняй—расейцамі. І вось нам трапілася, як кажа прыказка „ў чужым піру пахмельле“.

Палякі пашкодзілі літоўцам у Віленскай справе. Гэтая крыўда літоўскаму народу адчуваецца і на беларусах—лічачых сябе палякамі. Расейскі царскі ўрад займаўся русіфікацыяй і гэта адчуваецца на беларусах, лічачых сябе расейцамі. А па істоце беларускі народ, зпрадвеку жывучы побач з літоўцамі, заўсёды меў з літоўскім народам братэрскія стасункі. Нам, беларусам Літвы, прыходзіцца разраховывацца за сваю нацыянальную несьвядомасьць. Запраўды, што сталася з зямельнай справай ў Літве.

Закон аб зямельнай рэформе ў Літве (артыкулы, якія балей усяго адчуваюцца нашым жыхарствам) вось што кажа:

§ 1. Дзеля патрэб зямельнай рэформы адымаюцца:

c) землі быўшых Расейскага Дваранскага і Селянскага Банкаў, надзеляныя пасьля 1904 г. з мэтаю русіфікацыі каланістамі і маючых вярнуцца згодна дзяржаўнага часовага закону 1919 г. Студзеня 9 дня аб літоўскім падданстве (L. V. Ž. Nr. 2-3) і законам 1919 г. Студзеня 19 дня аб землях быўшага Селянскага Зямельнага Банку (L. V. Ž. Nr. 9), выключаючы землі тых каланістаў, літоўскіх падданых, якія перад вайною здабылі купчыя крэпасьці і яны самі альбо іх дзеці ахвотнікамі верна служаць альбо служылі ў літоўскім войску;

d) землі канфіскаваныя расейскаю ўладаю пасьля 1863 г.

Студзеня 1 дня ад рожных асоб і з мэтаю русіфікацыі падзеляныя каланістам ці другім асобам, калі гэтымі землямі валадзеюць самі атрымаўшыя альбо іх насьледнікі.

Надзяленьне зямлёй згодна § 14 і практыкай жыцьця праводзіцца такім спасобам:

У першую чаргу атрымліваюць зямлю тыя, якія служылі ў Літоўскім войску ахвотнікамі,

У другую—тыя, чыя зямля была канфіскавана расейскім урадам,

У трэйцюю—батракі і арандатары, працаваўшыя ў маёнтках (перад вайною і цяпер), належачых да парцэляцыі,

У чацьвертую—беззямельныя і малазямельныя селяне жывучыя па суседству з парцэлюямымі землямі,

У пятую—рэшта жадаючых атрымаць зямлю, калі яна застаецца пасьля задавальненьня першых чатырох катэгорый.

У § 1 c) і d) гаворыцца аб тым, ад каго і на якой падставе зямля адымаецца і перахолзіць у Літоўскі дзяржаўны фонд, а § 14—хто надзеляецца. Наша селянства зацікаўлена ў тлумачэньні абодвых гэтых артыкулаў. Частка беларусоў зацікаўлена ў тым, каб на падставе § 1 яго землі (тыя 10—15 гэктараў, якія яно набыло) не былі адабраны. Значная частка селян беларусоў (беззямельныя і малазямельныя) зацікаўлены § 14, каб яно (па Літоўскай Канстытуцыі ўсе грамадзяне роўнымі правамі карыстаюцца) мела магчымасьць на роўных з іншымі варунках атрымаць з дзяржаўнага фонду зямлі. Гэты закон прыняг Літоўскім Уст. Соймам існаваўшым тады блокам хрышчоных дэмакратаў і селян-праднікаў. Вышейпамянёны закон не столькі шкодны па сваёй ідэі, сколькі шкодны тым, што ён неясны: пры выконываньні на практыце ён дапушчае рожныя тлумачэньні. Ў законе гаворыцца аб русіфікатарах каланістах, але не вытлумачана, што такое русіфікацыя і каго трэба лічыць русіфікатарамі-каланістамі. Звычайна русіфікацыяй завецца імкненьне царскага ўраду і расейскай чорнай сотні абмаскаліць краіны, заселёныя не расейцамі. Такое імкненьне было і былі яго сьвядомыя выканаўцы, якіх Улада Літоўскага народу мае права пакараць. І запраўды дзеля гэтай прыкрай справы было скіравана сюды некалькі расейскіх абшарнікаў, якія разам з чорнай сотняй гэтую ганебную справу выконывалі. У тлумачэньні-ж сучаснага Міністэрства Зямельных Спраў пад катэгорыю русіфікатараў—

каланістаў падводзіцца, амаль, ня ўсё жыхарства расейскай меншасьці ў Літве; пад гэтую катэгорыю трапіла нават і частка зпрадвеку жыўшага побач з літоўцамі беларускага жыхарства. Вось такое тлумачэньне русіфікацыі-каланізацыі, на наш погляд, несправедлівае. Яно ня толькі нішчыць нас з матэрыяльнага боку, яно зьневажае, аскарджае нашую чалавечую годнасьць, і мы супроць накіданьня нам такога ярлыка катэгарычна і рашуча пратэстуем.

З пачуцьём поўнае аб'ектыўнасьці і адпаведальнасьці за свае словы мы беларусы лічым сваім маральным абавязкам і правам зазначыць:

Ні стараверы, апыніўшыяся на Літве яшчэ ў часы Вялікага Княжаства Літотўскага, як эмігранты-уцекачы ад рэлігійнага ўціску маскоўскіх цароў; потым стральцы Петра I; ні тым больш праваслаўныя, у пераважнуй масе ня сьвядомыя нацыянальна беларусы, не павінны ў русіфікатарскіх імкненьнях расейскага самадзержаўя.

Барометрам-меркаю настрояў і палітычных думак шырокага грамадзянства ў Расеі было заўсёды студэнцтва. Мы ведаем, што тысячы студэнтаў марнаваліся і гнаіліся па рожным турмам, за сваю варажасьць да палітыкі самадзержаўя.

Яшчэ больш яскравым доказам можа паслужыць ніжэй пададзены факт, датычучыся да справы літоўскага адраджэньня.

Для большай вачавістасьці—маленькае наступнае параўнаньне:

Шмат літоўцаў адукавалася ў польскіх як касьцёльных школах, так і ва ўнівэрсітэтах (Вільня, Варшава, Кракаў і інш.)

Дазвольце запытацца: Чаму справу літоўскага адраджэньня пачалі выхаванцы ня польскіх школ?

Пачынальнікі літоўскага адраджэньня—д-р Басанавічюс, д-р Грыніус, д-р Стаўгаіціс, д-р Шлюпас і інш. Усе яны атрымалі вышэйшую адукацыю ў цэнтры Расеі—ў Маскве.

Калі-б расійскае грамадзянства запраўды кіравалася і прытрымлівалася царскай русіфікатарскай палітыкі, дык навалы свайго нацыянальнага цэнтру яно параліла-б імкненьня да нацыянальнага адраджэньня вялікіх літоўскіх пачынальнікаў; як на працягу векоў было паралізавана імкненьне нацыянальнай літоўскай моладзі з боку грамадзянства польскага.

Праўда, ў расейцаў быў Каткоў, Грынмут і інш., але былі і Герцан, Дабралюбаў, Белінскі і цэлая плеяда слаўных рэвалюцыйных змаганьнікаў. Апошнімі, а не Катковым да Грынмутам, фіксаваліся нацыянальна-палітычныя думкі шырокіх колаў расійскага грамадзянства.

Так сама цікавае зьявішча: За час векавога панаваньня расейскага самадзержаўя ў Літве ці многа літвіноў зрабілася расейцамі-абмаскалілася? Такіх мы ня ведаем. За тое ўсім ведама, што апалячыліся целыя колы літоўскага грамадзянссва, а Польшча свайго ўрадовага апарату ніколі ня мела на Літве.

Маецца целы шэраг аб'ектыўных даных, што царскі ўрад нарабіў шкод нацыянальнаму пачуцьцю літоўскага народу ня столькі праз русіфікацыю, скольки праз паланізацыю, па шырэньню якой спрыяла клясавая дваранска-шляхецкая палітыка расейскага самадзержаўя.

Высоўваючы гэтыя думкі, мы беларусы прапануем нацыянальна-сьвядомаму літоўскаму грамадзянству паразважаць крыху над гэтым пытаньнем.

Мы яшчэ раз падкрэсьліваем—расэйская дэмакратыя і, тым больш, селянства не павінна ў палітіцы расейскага самадзержаў'я а беларускія селяне тут зусім не прычом.

Вяртаючыся бліжэй да зямельнага пытаньня, мы павінны зазначыць, што беларускаму селянству ў справе карыстаньня набытаю ў Літве зямлёю больш за ўсе пагражае небясьпека ад артыкула д) § 1-га зямельнай рэформы, гдзе гаворыцца аб канфіскаваных расейскім урадам ад паўстанцаў 1862-3 г.г. землях, частка якіх была распарцэлявана селянству. У такім нябеспечным становішчы апынулася жыхарства вёсак Манкавішкі, Пашырвінты, Нарвіды і інш.

Мы павінны зазначыць, што паўстаньне 1863 г. праводзілася ў галоўных рысах не пад лозунгам літоўскай, а пад лозунгам польскай дзержаўнасьці. Гісторыі ведама шмат выпадкаў, калі само літоўскае селянства змагалася супраць польскіх паўстанцаў. Але не затрыліваючыся над гэтым, мы зьвяртаем увагу на тое што парцэляцыя двароў і надзяленьне зямлёю селянства адбывалася безпасрэдня па скасаваньні прыгону. Беларускае селянства апынілася на абшарах канфіскаваных маёнткаў зусім выпадкова і несьвядома (ў сэнсе каланізацыйным). Большасьць беларусоў былі месцовыя ураджэнцы, іх надзелялі зямлёю на агульных падставах. Беларус, асяда-

ючы на тым ці іншым кавалку зямлі ў Літве, нелічыў яе чужою краіною. Літва—Велікае Князства Літоўскае—гэта супольная літоўска-беларуская бацькаўшчына.

Правесьці (нават спецыялістам этнографам-народаведам) граніцу, размежовываючую прыродных літоўцаў ад беларусоў даволі трудна, а калі і зусім немагчыма.

Не можна было патрабаваць гэтага сьвядомага размежаваньня ад беларускага селянства ўчарашняго прыганятага раба (гаворучага прыладу instrumentum—vokale, як завецца гэта па рымскім законам), аслабаніўшагася з-пад панскага бізуна і, магчыма, бізуном Мураўёва прыгнанага на новае месца. Бо былі ў 1863 г. і запраўдныя літоўска-беларускія паўстанцы, на чале якіх стаяў Каліноўскі. Не выключана магчымасьць прымусовага пераселеньня некаторых беларускіх селян за спачуцьцё Каліноўскаму.

На падставе ўсяго вышэй пададзенага зазначаем:

1) Селянства, як стараверы, так і праваслаўныя (ў сваёй масе нацыянальна несьвядомыя беларусы), непавінна ў крыўдах літоўскаго народу ад русіфікатарска-каланізатарскай палітыкі расейскага самадзержаўя.

2) Самыя словы русіфікатар-каланізатар мы лічым абразлівымі і разглядаем, што яны могуць ужывацца адносна толькі паасобных грамадзян, як кара за іх злачынства ў стасунку нацыянальнай справы літоўскага народу.

Мы будзем дамагацца каб:

3) Ясна было зазначана, што такое русіфікацыя і хто павінен за яе адпаведаць.

4) Як уселякая кара, словы русіфікатар-каланізатар і залежачыя ад гэтага вынікі ў зямельнай справе § 1 c) і d) павінны пастанаўляцца судом.

5) Землі селян прызначаныя па загаду Міністэрства Зямеляных Спраў пад парцэляцыю павінны быць зьвернуты ўласьнікам, калі Мін. Зям. Спраў не дакажа судовай пастанавай правідловасьць свайго абвінаваньня ў русіфікацыі кожнаго паасобку грамадзяніна.

6) За нерухомую маёмасьць і землі, якія распарцэляваны і ўжо перададзены іншым ўласьнікам (калі М З. не дакажа свайго абвінавачаньня ў русіфікацыі праз суд) павінны быць компенсіраваны ўласьнікі, ў акрэсьляны тэрмін, неправідлава канфіскаваных селянскіх зямель або нарэзкам зямлі, або

грашмі па фактызнай цане (з правам абжалаваньня расцэнкі ў судзе), як за зямлю, так і за будынкі.

Невыплачаныя грошы па крэпасным купчым Зямельнага і іншых Банкаў паступаюць да скарбу, як перанявшаму справы гэтых Банкаў.

За вырашэньне пякучай для нашага селянства зямельнай справы браўся нібы наш дэпутат мінулага Сойму—Ерын. Дзеля гэтага ён зьмянтў блёку меншасьцяў (па агульнаму з якімі сьпіску ён прайшоў у Сойм) і перасеў да Соймавай большасьпі—хрышчоных дэмакратаў. Нават быў час, калі ён распаўсюджываў такія ввсткі: „Селяне, малецеся, прыезжайце ў Коўна і падавайце просьбу ў Міністэр. Зямельн. Спраў, бо я дабіўся папраўкі ў законе, на падставе якой набытыя вамі (праз Селянскі Зямельн. Банк) землі будуць звольнены ад канфіскацыі і зьвернуты вам“.

„Папраўкі“ да закону запраўды былі, але не такія, каб можна было зьвярнуць землі, канфіскаваныя ў нашага пакрыўджанага селянства.

Вось гэтыя папраўкі, як піша аб іх сам Ерын: „Да § 1-га артыкула „с“: слова „дабраволец“ выкрэсліць.

Да § 14 дададзена такая ўвага: „літоўскія грамадзяне каланісты быўшага Селянскага і Дваранскага Банкаў, якія набылі або ненабылі „данных актаў“ (купчых крэпасьцей), але самі ці іх дзеці верна служылі, або служаць у літоўскім войску і пабудавалі, на атрыманых ад памянёных Банкаў зямельных вучасткаў, будоўлі; атрымліваюць землі гэтых вучасткаў у парадку, ўстаноўленым „законам зямельнай рэформы“.

Аб чым кажаць гэтая папраўка?

1) Землі нашага селянства, якое не правідлова абвіначавана ў каланізацыйных імкненьнях ды русіфікацыі, як адымаліся раней, так і будуць адымацца надалей на падставе § 1-га артыкула „с“ і „д“ (Закон Зямельнай рефор.); бо канфіскацыя зямель нашага селянства і цяперака (пасьля „направак“) прызнаецца правідловай, законнай.

Факт выкрэсленьня ў § 1 арт. „с“ слова „дабраволец“ нічога не дае нашаму селянству для практычнага выкарыстаньня, ў якога зямля ўжо канфіскавана і аддадзена пад парцэляцыю.

2) Папраўка да § 14 (ў якім гаворыцца аб парадку надзяленьня зямлёю) не пашырае, а абмежавае правы нашага селянства. Па Літоўскай Канстытуціі ўсе грамадзяне карыстаюцца роўнымі правамі, а значыць і селяне меншасьцяў маюць аднальковае права атрымаць зямлю. Пасьля-ж „направак“

Ерына—атрымліваюць зямлю толькі тыя селяне, якія, па-перш, служылі ў літоўскім войску і, па-другое, маюць на канфіскаваных землях будынкі.

Сваімі „папраўкамі“ блок х.-д. жартуе, насьміхаецца над Ерыным, а зразам гэтым і над усім нашым селянствам.

Грамадзянін Ерын! Мы давалі вам свае галасы не дзеля жартаў і зьдзеку над намі, а каб вы баранілі нашы інтэрасы. Мы ніколі не забудзем вашага сьвядомага баламуцтва ў гэтай справе на агульна-літоўскім (штучна-складзеным вамі) зьездзе рускага грамадзянства, калі вы запэўнялі нас ў тым, што з зямельнай справай нібы ўсё ў парадку.

Вы, г. Ерын, зьдзекаваліся над нашай нядоляй!

Вы, паведамляючы жыхарства ў сваіх адозвах аб вашых „дасягненьнях“ у зямельнай справе пішаце не ўсё. Вы не гаворыце аб вашай „галоўнай папраўцы“—аб тым, што астатняе вырашэньне зямельнай справы нашага селянства зьнята з закону і перадана на вырашэньне чыноўнікаў, пастановы якіх не падлежаць абжалаваньню ў судзе.

Што цяперака рабіць? Гдзе бараніць свае права пяці быўшым салдатам войску (з в. Пашырвінты—Нарвіды), ў якіх (або іх бацькоў) не толькі канфіскавалі зямлю, а нават адабралі і літоўскія грамадзянскія пашпарты і меліся 24 красавіка выселіць з пад роднай страхі. Што ім рабіць? Скажэце г. Ерын! Вось да чаго давелі вашы „папраўкі“.

Чаму вы не заікнуліся ў Сойме аб галоўнай прычыне, на падставе якой адымаюцца землі ў нашага селянства? Вы—першы дэпутат ад расейскаге жыхарства ў Сойм! Вы павінны былі сказаць, што расейска-беларускае селянства, (ў сваей пераважнай масе) ў працягу векоў жывуць побач з літоўцамі, што яны нічога супольнага з русіфікацыйнымі імкненьнямі расейскага самадзержаўя не маюць і русіфікацыяй ніколі не займаліся.

Можа вам, як выхадцу з Дону, гэтае пытаньне (ў асабістых інтэрэсах) небязпечна было закрануць; але ў імя інтэрасу, галасаваўшага за Вас месцовага жыхарства, вы павінны былі гэткае неправідловае абвінавачэньне спраставаць.

Сваім побытам і „працаю“ ў Сойме вы, г. Ерын, далучыліся і адпаведаеце за крыўды і абяздоляньня расійска-беларускага селянства. Спадзяёмся, што ў новым Сойме нашы дэпутаты здолеюць, растлумачыць крыўду нашага (як праваслаўных, так і старавераў) селянства, і што яны (разам з спаўчуваючымі селянам дэпутатамі) выратуюць нас ад сучаснага цяжкага становішча.

**Скрутны.**

# Пашпартавая справа.

Даўней казалі, што чалавек мае дзьве істоты-цела і душу; цяперака кажуць, што ён мае тры істоты—цела, душу і пашпарт.

І запраўды, адбярыце ад чалавека пашпарт і вы адразу-ж заўважыце, як душа чалавека пачынае сумаваць, а цела—марнець.

На падставе часовага закону аб грамадзянстве (Весьнік Ураду № 2) па § 1-му—права на літоўскае подданства маюць 1) тыя, чые бацькі і дзяды жылі ў Літве, 2) дзеці іх, хоцьбы яны і незаўсёды жылі ў Літве, але зьвярнуліся на сталае жыцьцё, 3) асобы, пражыўшыя ў Літве ня менш 10 год) да 1914 году) і меўшыя або нерухомасьць, або сталую працу, 5) дзеці грамадзян Літвы, 5) жонка, або ўдава грамадзсніна Літвы, 6) дзеці, ад няшлюбнага сужыцьця літоўскіх грамадзян, калі яны не ўсыноўлены чужаземцамі, 7) чужаземцы, прыняўшыя літоўскае грамадзянство.

Да гэтага дададзена ўвага: „грамадзянамі Літвы ня могуць быць залічаны тыя асобы, якія мелі ўрадавую пасаду, але працавалі выключна для расейскага ўраду.

Па § 2—грамадзянства даецца таму, хто цражыў 5 год у Літве, меў сталую црацу, за кошт якой утрымліваў сябе і сваю сямью і разам з тым ня быў апарочаны судом.

§ 3 кажа аб парадку прыняцьця падданства, што робіцца па ўзаемнае згодзе міністра ўнутраных спраў і міністра справядлівасьці, якія вольны даць, або не даць сваю згоду

Для доказу свайго права на літоўскае грамадзянства (Весьнік Ураду № 75, чарговы № 671) трэба мець адзін з ніжэй паказаных дакумэнтаў: а) стары расейскі пашпарт, б) пашпарт „Обэр-Ост“, в) сямейны валасны спісак, г) мэтрыку хросную, або шлюбную.

Канстытуцыя аб правох на падданства гаворыць каротка —згодна з істнуючымі законамі права на літоўскае падданства маюць асобы, пражыўшыя ў Літве 10 год.

Ня будзем затрымлівацца доўга на разглядзе гэтых законаў. Скажамо толькі, што на практыцэ непрыемнасьці для руска-беларускага грамадзянства ўсплываюць у зьвязку з разгледжанымі раней пытаньнямі аб русыфікацыі.

Часовы закон аддае гэту справу на ўласны погляд двух

міністраў, канстытуцыя-ж зазначае аб гэтым больш у акрэсьлянае форме.

Асабліва цяжка црыходзіцца нашаму грамадзянству пры бываючай праверцы дакумэнтаў.—Дзякуючы таму, што мэтрычныя кнігі і іншыя дакумэнты былі вывезены падчас вайны, чалавеку, выпадкова страціўшаму стары расейскі пашпарт, або пашпарт „Обэр-Ост“, вельмі цяжка даказаць свае права на падданства. Асабліва цяжка таму, хто, купіўшы зямлю пры дапамозе зямельнага банку, пераехаў на новае месца жыхарства і аказаўся няўпісаны ў новыя валасныя сьпіскі.

Страта падданства гэта значыць—конфіскацыя набытае зямлі, пазбаўленьне права на надзяленьне зямлей з зямельнага фонду, ня выключана і магчымасьць высылкі з Літвы. А куды выязджаць таксама ня ведама, бо срок на каптацыю савецкага грамадзянства ўжо мінуў. Словам, чалавек нібы павісае ў паветры. Пашпартная справа—справа балючая і трэба каб нашы дэпутаты як найлепш яе высьвятлілі, акрэслена адзначыўшы, хто мае права дамагацца літоўскага падданства і на якіх падставах у гэтым падданстве можа быць адмоўлена і куды магчыма, ў выпадку адмоўленьня, жаліцца.

Пашпартная справа—справа вельмі дражлівая і яна павінна быць злагоджана.—Даволі чалавеку і дзьвюх істот.

---

# Беларусы Літвы.

## Гаспадарчая становішчэ.

На падставе данных статычнага дэпартаменту агульны лік беларусаў (грамадзян літвы) . . . . . . . . 4420

| | |
|---|---|
| каталікаў | 2733 |
| прававаслаўных | 1625 |
| уніятаў | 27 |
| проч. | 35 |

Лік больш па засяленым паветам:

| | |
|---|---|
| Аліцкі | 190 |
| Коўна горад | 171 |
| Коўна павет | 117 |
| Расейнскі | 170 |
| Шавельскі | 340 |
| Тельшаўскі | 310 |
| Троцкі павет. | 1946 |

По больш зясяленым валасьцям:

| Найменьш у паветаў | Найменьш валасьцей | Агульны лік жыхараў у валасьці | Лік беларусоў | %% беларусаў |
|---|---|---|---|---|
| Мажэйкі | Вейшні | 10,549 | 140 | 1,33 |
| Шаўлі | Трышкі | 6,451 | 280 | 4,33 |
| Тэльшы | Тэльшы | 9,389 | 243 | 2,60 |
| Трокі | Вялікі двор | 7,838 | 203 | 2,60 |
| — | Семелішкі | 7,463 | 1,160 | 15,55 |
| — | Евье | 7,069 | 314 | 4,44 |

Як бачым, лік грамадзян Літвы, свядома вызнаўшых сваю нацыянальную прыналежнасьць да беларусоў, аб чым і заявіўшых у належных афіцыяльных установах, не вялік. Раськіданы яны дробнымі купкамі амаль паўсей Літве. Крыху згусьціўшыся ў Троцкім павеце.

Ну што-ж зробіш? Звычайна, не прызваіта з прычыны гэтага або цешыцца, або сумаваць.

А сум чагосьці прыступае да сэрца. І не таму, што нас запраўды мала, а таму, што большасьць беларусоў (маючыхся ў сучаснай Літве) не жадае падыйсьці да нацыянальнай справы,—застаецца не сьвядомай.

Частка беларусоў залічыла сябе, або імкнецца да расейцаў, частка—да палякоў.

І адны і другія ня лічуцца з справай беларускага адраджэньня,—не заўважылі і не чакаюць ад справы пажаданых пэрспэктыў як агульнага, так і асабістага зьместу.

Пяняць і крыўдзіцца ў даным разе можна і шмат на каго; а перш за ўсё на саміх сябе. Не патрапілі ў час мы, беларусы, ўзняць належную гутарку аб сабе.

Мінулыя годы надалі занадта цяжкую адзнаку. Нашу, супольную з літоўцамі, дзяржаву зруйнавалі; нашых, найбольш выдатных, грамадзян чужынцы пераманілі да сабе, а рэшту аддалі ў прыгон; зямлю аддалі ў панскія рукі; прамысловасьць спынілі; школы і наогул адукацыю шырокіх колаў грамадзянства зьвялі амаль на нет; пісьменнасьць старую нішчылі, новую забаранялі жыхарству (ў роднай мове) друкаваць. Чужынцы (ў працягу больш трох вякоў) арудавалі над намі як

хацелі. Ў рэшце-рэшт выглядала так, што мы ў сябе на Бацькаўшчыне—ў роднай хаце зрабіліся нібы чужакамі. Штой казаць, у такім становішчы запраўды не надта загаворыш!

Вялікае ўзбураньне на ўсходзе раптам перавярнула ўверх дном справу, зьліквідавала векавую крыўду нашага народу. Нарэшці наш селянін, падтрыманы рабочым, здолеў сказаць пану: „не я тут чужынец, а ты,—не перашкаджай мне гаспадарыць“. Ўчарайшы пан павінен быў або прымоўкнуць, або—„задаваць лататы“—зьнікнуць.

Нажаль за рыжскай мяжой пан здолеў затрымацца (нашліся прыслугачы і падсобнікі і ў яго) і мы, беларусы, ня здолелі, на суседзкай мяжэ, паздароўкацца—прывітацца з літвінамі. Ад маючайся на мэце ўсталіцца, супольнай мяжы як літвіноў, так і беларусаў адсунулі клінам, адцёрлі палякі.

Вось таму нам, беларусам сучаснай Літвы, так здалёку, так дрэнна чуваць родную мову, родную песьню, водгукі роднага—беларускага жыцьця. Мы (як той, страціўшый ноччу ў зімовую завіруху, шлях) ў роспачы кідаемся ў ваўсе бакі, шукаем да чаго-б прытуліцца і ня ведаем, што рабіць.

Ціху грамада! Гляньце,—зорка ўздымаецца! Дружней адзін да аднаго! Пабачце—вас ужо больш! А хутка адчуеце, што вам і лепі.

**А. Пуцята.**

---

# Віленская справа.

Ў афіцыяльнае прэсе Радавай Беларусі даволі часта зьмешчаюцца артыкулы, датычучыя пытаньняў зьвязаных з Літвой і яе інтэрэсамі.

Лічачы што погляды ў гэтай справе Менску як рэпразэнтуючага рэальную беларускую старану, маюць акрэсьляную цікавасьць для месцовага, як літоўскага так і беларускага, жыхарства,—мы зьмешчаем адзін артыкул часопісі „Савецкая Беларусь“ за № 81 г. г., як матэр'ял дзеля абмена думкамі.

Заўсёды, калі да якое-небудзь справы падыходзюць і маюць узяць удзел у яе разьвязаньні рожныя староны, дык кожная з іх, беручыся за справу, мае свой optimum вырашэньня, Жыцьцё звычайна даводзіць да раўнавагі —

гэтыя імкненьня. Чым раней гэтая раўнавага будзе асягнута, тым лепей будзе для літоўска-беларускага жыхарства Віленшчыны.

# Менск-Вільня-Коўна.

„Ці сучасная Коўна знойдзе супольны язык з Менскам—гэта пытаньне“...
(„Залаты мост“, № 15—Бел. Ніва).

Апошнім часам віленская беларуская прэса і беларускае грамадзянства ізноў застанаўліваюць сваю ўвагу на віленскім пытаньні і пытаньні аб беларуска-літоўскіх адносінах. Безварункова, гэтыя два пытаньні цесна паміж сабой зьвязаны. Стасунак беларусаў наогул, і, ў першую чаргу, стасунак віленскіх беларусаў да літоўскіх прэтэнзій на Вільню—шмат у чым залежаць ад таго, як Літва глядзіць на свае адносіны да Беларусі, які характэр набываюць літоўска-беларускія адносіны.

Мы ня будзем застанаўлівацца над труднай праблемай Вільні ў сэнсе яе дзяржаўнай належнасьці ў будучыне. Той пункт гледжаньня, які ўстанаўлівае на гэта дражлівае пытаньне орган Беларускай Грамады ў Вільні — „Беларуская Ніва“ (№ 15 ад 24 лютага), заключаецца ў тым, што Вільня ў будучыне павінна стаць „Залатым Мастом“, паміж народам беларускім і літоўскім. Запраўды, для таго, каб Вільня, ў будучыне сталася гэткім „Залатым Мастом“, трэба, каб літвіны пераглядзелі сваю „дзяржаўную канцэпцыю“, якая імкнецца зрабіць Вільню сталіцай выключна літоўскае дзяржавы, далучыўшы да яе добрую палову Заходняе Беларусі. Мы хочам застанавіць увагу чытача на другім пытаньні, якое папераджае першае—на пытаньні аб беларуска-літоўскіх адносінах.

Вядомы факт, што як Літва, так і Савецкая Беларусь моцна адна ў другой зацікаўлены. Зацікаўленасьць гэта вынікае перш за ўсё з тае небясьпекі, якая ідзе на нас і на літвіноў з захаду, ў асобе сучаснае Польшчы. Палітычная думка польскага імпэрыялізму, што імкнецца абаперці сваю „дзяржаўную моц“ на ўсходніх беларускіх і літоўскіх абшарах —усьцяж шукае спосабаў і магчымасьцяў, як бы зьдзейсьніць свае пляны. Часам можа і ня выказваючыся адкрыта, гэтая думка жыве і ў польскім гэнэральным штабе, і ў соймавых колах, і ў рэакцыйных польскіх унівэрсытэтах. Яна жывуча,

гэтая думка, як іскра ў попеле, яна творыць істоту хцівага польскага шляхецтва і зьнікне з польскага палітычнага небасхілу толькі тады, калі ўвесь лад сучаснае Польшчы будзе зьменены нанова.

І нашае беларускае грамадзянства і грамадзянства літоўскае добра разумеюць небасьпеку, што таіць для іх народаў памянёны польскі імпэрыялізм—і гэтае ўзаемнае разуменьне ёсьць першая падваліна дзеля сьціслага літоўска-беларускага паразуменьня. Другой бясспрэчнай падвалінай зьяўляецца ўзаемная эканамічная зацікаўленасьць паміж Літвой і Беларусьсю. Найлепшым выразам гэтай зацікаўленасьці ёсьць басэйн ракі Нёмана, патрэба Літвы ў нашым беларускім эканамічным „hinterland'e", а Беларусі, ўзаемна, патрэба ў выхадзе да Бальтыцкага мора. У спэцыяльнай літаратуры адзінасьць эканамічнай прыроды Літвы і Беларуссі і іх узаемная зьвязанасьць знайшлі агульнае прызнаньне,—і нашае і літоўскае грамадзянства з гэтым зусім згодна. Урэшце, абодвы народы зацікаўлены паміж сабой і культурна: абодвы яны толькі падымаюцца ад таго заняпаду, ў які кінуў іх былы расейскі царызм, абодвы яны яшчэ слабыя культурнымі сіламі і дасягненьнямі, ня маюць славетнай „культурнай экспансыі", г. зн. імкненьня да дэнацыяналізацыі,—і таму могуць спакойна супрацоўнічаць адзін з адным на ніве культуры і навукі.

Гэтых даных зусім даволі, каб ідэя беларуска-літоўскага зблїжэньня была высунута сама сабой. І мы ведаем, што сярод беларускага грамадзянства, як тут, у межах Савецкай Беларусі, так і па-за межамі яе, ёсьць ня мала людзей, якія хацелі-б папрацаваць на карысьць гэтае ідэі. Мы ведаем таксама, што і сярод літоўскага грамадзянства ёсьць ня мала асоб, якія хацелі-б стацца актыўнымі абаронцамі гэтае ідэі,—тым больш, што некалі, да таго моманту, пакуль Польшча не налажыла на абодвы народы сваёй цяжкай далоні, ідэя гэтая была „жывым жыцьцём".

Аднак гэтай і палітычна, і эканамічна, і культурна важнай і разумнай справе перашкаджае ніхто іншы, як сучасны ўрад Літвы, а галоўней за ўсіх—правячая партыя хрысьціянскіх дэмакратаў. Доказам падобнага адмоўнага адношаньня партыі х.-д. да беларуска-літоўскага зблїжэньня можа служыць, прыкладам, такое зьявішча.

У месьце Коўне яшчэ ўвосень мінулага году злажыўся

„Беларускі Нацыянальны Камітэт“ на чале з інш. А Галавінскім. Камітэт гэты зьяўляецца, наскольві нам ведама, чыста грамадзкай арганізацыяй, у склад якой, да рэчы кажучы, ўвайшлі людзі розных палітычных пераконаньняў. Акрэсьленай палітычнай фізыяноміі азначаны камітэт ня мае, бо працуе пад старым зьбітым лёзунгам „дэмакратычнага яднаньня ўсіх нацыянальных сіл“. У сваім прэсавым паведамленьні камітэт заявіў, што побач з працай па нацыянальным усьвядомленьні і арганізацыяй беларускага жыхарства на Літве, ён будзе дбаць аб усталеньні добрых адносін з літоўскім грамадзянствам і аб узмацненьні літоўска-беларускага збліжэньня.

Побач з камітэтам і акурат з прычыны яго ўзьнікненьня, зьявілася ў тэйжа Коўне другая арганізацыя—на гэты раз ужо напоў бюракратычная—„Літоўска-беларускае таварыства“. На чале гэтай арганізацыі стаў таксама вядомы цяпер, але з дрэннага боку, беларускі працаўнік В. Ластоўскі—літоўскі чыноўнік і кіраўнік няіснуючага „міністэрства па беларускіх справах“.

І вось вынікі ўзьнікненьня гэтых арганізацый: у той час, як „Таварыства“ ўладай зацьверджана і карыстаецца з боку яго ўсякай падтрымкай,—„Камітэт“ не зацьверджаны і на ініцыятараў яго, як даходзяць сюды весткі, сыплюцца ўсякія скарпіёны.

У чым жа справа? А справа ў тым, штом грам. Ластоўскі і яго „Таварыства“, як нарадзілася, так і заявіла аб сваёй варожасьці да Савецкай Беларусі,—і ў гэтым напрамку вядзе далей акрэсьленую прапаганду як у самай Літве, так і ў Зах. Беларусі. А Беларускі Нацыянальны К-т трымаецца ў гэтым пытаньні, як відаць, нэйтральна і падобных агрэсыўных мэт сабе ня ставіць. Выходзіць, што гэтаму к-ту не даюць магчымасьці жыць і працаваць на Літве толькі таму, што ён не заяўляе аб сваім жаданьні весьці барацьбу супроць Савецкай Беларусі.

Гэты факт можа і дробны, але вельмі паказальны. Ен кажа аб тым, што сучасныя заправілы Літвы ня хочуць лічыцца з беларускім рухам, як ён ёсьць, але хочуць накіраваць яго ў той бок, куды ім больш падабаецца. Яны ня хочуць лічыцца з тым, што Савецкая Беларусь ёсьць адзіны рэальны фактар беларускага адраджэньня і мараць аб тым,

каб замяніць сучасны Менск чымсьці накшталт сваёй ксяндзоўскай Коўны. З гэтай мэтай разьвіваюць яны адпаведную „акцыю“ як у сваёй „парахвіі“, так і пад польскай акупацыяй яднаючыся і падпіраючы тыя беларускія групаваньні, якія таксама займаюць антысавецкую плятформу.

Усё гэта сьведчыць у сваю чаргу ні аб чым іншым, як аб тым, што сучасная літоўская палітыка ўсё яшчэ ня хоча адносіцца паважна да беларускае справы. Яна пастарому імкнецца дробна спэкуляваць на беларусах выключна ў мэтах палёгкі для сябе змаганьня за Вільню. Бо хто, запраўды, нават з ліку тых самых літоўскіх клерыкалаў можа сур'ёзна думаць і меркаваць над тым, каб пры падтрыманьні пана Ластоўскага весьці змаганьне за Вільню на два фронты— і супроць Польшчы і супроць Сав. Беларусі“.

Далей аўтор зазначае, што ён, выяўленую літоўскімі х. д. палітычнымі коламі такую нібы агрэсіўнасьць ня лічыць сур'ёзнай, а разглядае яе, як тактычны манёўр, відавочная мэта асягненьняў якога скіравана толькі на тое, „каб утрымаць пры сабе пару-другую адпаведна ўзгадаваных беларусаў, каб беларусы наогул не рабілі клопат Літве з Вільняй, але дапамагалі ёй.

Кожнаму зразумела, што падобны шлях літоўскае палітыкі ёсьць шлях памылковы і шкодны. Ставячы сабе замест арганічных і далёка сягаючых мэт у сэнсе зблiжэньня з Менскам, ні граша ня вартыя камбінацыі супроць яго, літоўская палітыка ідзе завілым і няпэўным шляхам. Гэты шлях можа завесьці яе зусім ня туды, куды-б яна хацела. У гэткіх справах, як справа Вільні, літвінам трэба мець акрэсьленую і ясную для ўсіх праграму, а не якуюсь „загубленую грамату“,— каб кожная старана ведала, чаго яна хоча і як яна гэтага хоча. А перш за ўсё трэба, каб ў Коўне добра ўцямілі, што голас савецкага Менску мае ў гэтых справах першараднае значэньне.

Паднятую віленскай беларускай прэсай думку аб „Залатым Мосьце“ ў напрамку Коўна-Вільня-Менск можна толькі вітаць. Але для таго, каб „на будучыну гэта сталася“, каб быў знойдзен адпаведны ў гэтых выпадках „язык“, трэба, каб ковенскія палітыкі выказалі сваю апінію, што да беларускай стараны, больш выразіста, трэба, каб яны далі іншыя ад цяперашніх сьведчаньні сваёй сымпатыі да ідэі беларуска-літоўскага зблiжэньня. Пагана, калі да такіх паважных рэчаў ды падходзяць віляючы.

**Аляксандр Цьвікевіч.**

Ад рэдакцыі: Друкуючы гэты артыкул, рэдакцыя не са ўсімі палажэньнямі, высунутымі аўторам, згаджаецца.

# Хроніка Беларускага жыцьця.

Справа Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве.

У час майго малалецьця мая матка пераказвала мне вядомую казачку аб тым, як нейкі бацька прапанаваў сыном зламаць венік. Як не стараліся сыны гэты венік зламаць,—нічога зрабіць не здалелі.

Тады бацька запрапанаваў ламаць па адным пруціку і хутка тый-жа венік быў увесь пераламаны.

Вось, бацька ім і кажа.—Як вы рабілі з венікам, так бывае ў жыцьці з людзьмі.—Калі яны кожны па асобку, то іх моц мала чаго варта; калі-ж яны трымаюцца разам, то вельмі трудна што колечы гвалтоўнае над імі зрабіць.

Цяперака ня знойдзецца такіх людзей, якія-б не разумелі карысьці грамадзкіх арганізацый.

Больш таго на грунце арганізаванасьці пабудавана ўсё сучаснае грамадзкае жыцьцё. Трэба толькі, каб арганізацыя патрапляла, адпавядала патрэбам зарганізаванага грамадзянства.

У кожнай арганізацыйнай справе ліхая бяда-пачатак. Пакуль грамадзяне (як тыя раскіданыя паўсюды пруцікі) зьбяруцца да купы, ды пакуль дагаворуцца аб тым, што ня трэба чакаць "пакуль гром гране",—шмат вады ўцячэ.

Адны павадкі, з зацьверджаньнем камітэту, прапусьцілі і мы, беларусы.

Ў мінулым годзе, яшчэ ў летку, зыйшліся і вырашылі, што камітэт стварыць трэба. Выбралі некалькі грамадзян, каб распрацавалі статут камітэту. Ўзялі (як за прыклад) статут вядомай усюды ў Літве Грамады па вызваленьню Вільні. Як належыць падпісалі; куды належыць падалі.—Нібы пачатак зроблены. Аказваецца „воз і дагэтуль там." З нашым камітэтам нешта робіцца як у знакамітай „Вампуне":

Два крокі наперад; тры крокі назад.

Тры крокі наперад; два крокі назад.

Ў законе гаворыцца, калі прайшоў месяц ад часу аддачы статуту на рэгістрацыю ў камісію,—і калі ад камісіі адказу не атрымана,—арганізацыя, падаўшая статут, можа лічыць сабе законна існуючай.

Напішуць нашы камітэтчыкі статут. Падпішуць яго ў ліку 5-7 асоб. Засьведчаць подпісы ў натаруса. Наклеюць колькі

трэба гэрбавых марак. Аддадуць, пры належнай заяве ў канцылярыю і... пачынаюць чакаць.

Праходзіць месяц. Камітэтчыкі лічуць, што, на падставе закону, яны нібы істнуюць. Пачынаюць пакрыху рыпацца.

Глядзь—раптам прыходзіць паперка. Трэба статут паправіць, бо кшталтам у ёй сказана, што Бел. Нац. камітэт мае права... набываць нерухомую маемасьць; а сярод ініцыятараў стварэньня камітэту ёсьць не маючыя права літоўскага грамадзяніна (якім, па закону, забаронена набываць нерухомую маемасьць у Літве).

Набываць ды зьбірацца ў мураваныя харомы асаблівых ахвотнікаў у нас няма (лепі так дзе колечы на канцы гораду); адразу-ж выкрэсьляем неўдалы параграф статуту.

Ды вот штука зьвярнулі статут у двух экзэмплярах, а трэба тры.

Катай на машынцы адразу ў трох - будзе чысьцей—без паправак і т. д., як у казцы пра шэрага бычка.

Быў нават такі момант, што камісія (праўда ня ў поўным складзе, але большасьцю—прэдстаўнік суду і прэдстаўнік гораду) згодзілася зарэгістраваць статут.

Камітэтчыкі ўсьцешыліся (як дзеці новай забаўцы) зараз жа сабралі грошы, ды іх у банк; забралі квітанцыю, занясьлі канцылярысту і просяць, каб ён даў абвестку (ў Вераўсібес Жыніос) аб утварэньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве. Раюцца паміж сабой, калі склікаць агульны сход для справаздачы і выбараў сталага праўленьня. Уважліва чакаюць гэнае абвесткі і тым часам памалу нарыхтовываюць чарговую працу. Мінула два, а мо і болі, месяцы часу.

Бац, чуюць зноў гатуецца паперка з дадаткам двух экзэмпляраў статуту.—Пачынай з пачатку.

Адным словам—дзіўная справа!

І яшчэ больш дзіўная таму, што куды ня зьвярнішся ўсюды чуеш:—Беларусы народ добрый,—яны як з прадвеку былі, так і цяперыка ёсьць запраўдныя прыяцелі літвіноў,—трэба беларусам дапамагчы...

Камітэтчыкі, з свайго боку, не раз зазначалі, што яны жадаюць працаваць на агульную літоўска-беларускую карысьць.

Ў чым тут закавычка? Аллах яе ведае!

Тут, як у нас кажуць—без паўпляшкі не зразумееш.

Ну што-ж,—прыдзецца яшчэ перадруковываць статут! Пачакаем.

Л а з і н к а.

# Пад польскай аккупацыяй.

### Узмацненьне беларускай кооперацыі.

Адчынены ў Вільні беларускі кооперацыйны банк пашырае сваю працу.

Пачалі закладацца адзелы банку па правінцыі.

У пачатку красавіка закладзены адзелы ў Глыбокім і ў Пінску.

На **праведловы шлях узмацненьне кооперацыі**—скіравалі сваю працу нашы віленскія сябры. Кооперацыя—узмацненьне добрабыту жыхарства—ўзброеньне ў змаганьні супроць аккупантаў.

Пажадаем посьпеху іх працы.

---

# Радавая Беларусь.

### Гаспадарчае становішчэ.

Усьцешныя весткі атрымоўваюцца з Радавай Беларусі аб пашырэньні, ўздойму як агульна-дзяржаўнага будаўніцства: так і гаспадарчага дабрабыту.

**У гадовай справаздачы Урад** даводзіць аб тым, што ў мінулы год відавочна адчуўся пералом у гаспадарчым працэсе.—Эканамічны стан краіны, дайшоўшы да ўзроўню довайсковага часу, ад адбудовы зруйнаванага вайною перайшоў да паступовага і пляновага ўцелаішчэньня і замацаваньня новых форм у гаспадарцы, выяўленых ўзростам дзяржаўнай прамысловасьці, ўзмацненьнем кооперацыі, павялічэньнем і ўзмацненьнем коллектыўных гаспадарак у вёсках.

Бюджэтны індэкс Беларусі (ў параўнаньні з давайсковым часам—1913 год) павялічыўся амаль у два разы. Так званы „раствор ножніц"—(рожніца паміж цэнамі на сельска-гаспадарчыя і прамысловыя вырабы) значна зьменьшыўся.

Нарэшці рашуча ўзяліся за асушку балот (як праз грамадзкія арганізацыі, так і ў дзяржаўным масштабу). Выкананьне агульнага меліорацыйнага пляну разлічана на 10—15 гадовы тэрмін.

Вось цыфры, адпаведна выяўляючыя эканамічна-гаспадаркі стан рэчаў.

| №№ па парадку | **ПАКАЗАЦЕЛІ:** | Адзінкі ліку | 1923/24 г. | 1924/25 г. | Зьмяненьне за год у $^0/_0$ | Гад. (сяр. за ап. 10 год.) прырост да вайны ў $^0/_0$ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Пасеўная плошчадзь . . | Тыс. дзес. | 2.287,3 | 2.493,0 | + 9,0 | 1,0 |
| 2 | Валавы збор хлеба . . . | „ „ | 84.735,7 | 92.703,4 | + 9,4 | 0,8 |
| 3 | Таварныя зьлішкі хлеба | „ „ | 4.831,9 | 8.365,4 | + 73,1 | — |
| 4 | Склад жывёлы: | | | | | |
| | коней . . . . . . . | Тыс. галоў | 788,1 | 864,3 | + 9,7 | 0,84 |
| | парод. рагат. жывёлы | „ „ | 1.550,6 | 1.714,8 | + 10,6 | 1,63 |
| | авечкі . . . . | „ „ | 2.248,8 | 2.554,5 | + 13,6 | 0,89 |
| | сьвіньні . . . . | „ „ | 1.361,6 | 1.640,6 | + 20,5 | 1,48 |
| 5 | Валавая прадукцыя прамысловасьці ВСНХ | Тыс.дав.руб. | 11.262,3 | 16.489,5 | + 46,6 | — |
| 6 | Валавая прадукцыя ўсей цэнзавай прамыслов. | Тыс. чырв. р. | 33.167,3 | 51.311,2 | + 59,5 | — |
| 7 | Лік рабочых занятых у прамыслов. ВСНХБ. | Чалав. | 8.680 | 10.023 | + 15,5 | — |
| 8 | Вытворчасьць працы на 1 адроб. чалав. у прам. ВСНХБ. . . | Удав. кап. | 480 | 585 | + 21,9 | — |
| 9 | Агульны тавараабаб. 2 бірж. | Тыс. чырв.р. | 29.424,7 | 58.755,3 | + 98,7 | — |
| 10 | Вычат.-пазычк. аперац. 3-х банкаў у канц. г. | „ „ | 7.305,1 | 15.372,1 | +110,4 | — |
| 11 | Беграхункі і ўклады 3-х банкаў камерцыйных у канцы года) | „ „ | 2.548,7 | 7.794,4 | +205,8 | — |

Гэтымі цыфрамі сказана больш выразна і яскрава, чым словамі, аб адбудові і уздойму дабрабыту краіны.

---

Рэдактар—Выдавец: **Рагінскі.**

Redaktorius—Leidėjas: **Raginskas**.

